Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 22 540.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236 8549

# НАВІНЫ



Чацвер, 2 ліпеня 1998 г. | № 70 | Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Сын Лукашэнкі павінен даць паказанні

### *Следчыя зацікавіліся публікацыяй «Хто страляў у трэнера Аляксандра Лукашэнкі»*

У гэтым артыкуле, які быў апублікаваны ў нашай газеце 24 чэрвеня, паведамляліся некаторыя падрабязнасці надзвычайнага здарэння ў мінскім начным клубе «Макс-шоу», дзе ў выніку перастрэлкі быў паранены ў жывот хакейны трэнер Міхаіл Захараў. У адной кампаніі з Захаравым у тую ноч быў старэйшы сын прэзідэнта РБ Віктар Лукашэнка. У публікацыі прыводзіліся звесткі з ананімнага ліста, аўтар якога сцвярджае, што страляў не абы-хто, а менавіта прэзідэнцкі сынок.

У той жа дзень, як выйшла публікацыя, да нас у рэдакцыю завітаў следчы з цікавым запытам *(гл.копію)*.

МУС РБ
АДДЗЕЛ УНУТРАНЫХ СПРАЎ САВЕЦКАГА РАЁННАГА САВЕТА НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ г.Мінска
№2
«25» 06 1998 г.
№ ш1/ед-814.798

Главному редактору
газеты "НАВІНЫ"
Гермечуку И.

В связи с расследованием уголовного дела № 814-798 по факту причинения тяжких телесных повреждений Захарову и публикацией в газете "НАВІНЫ" статьи "Кто стрелял в тренера Александра Лукашенко ?" в соответствии со ст.64 ч.I УПК РБ прошу предоставить подлинники документов, из которых получены сведения, изложенные в данной публикации, а также сведения об авторе.

При отсутствии таковых прошу письменно сообщить в наш адрес: г.Минск, пер-к Я.Колоса,3.

С уважением,-

Начальник следственного отдела
Советского РОВД г.Минска — М.Д.Нехаичик

Мы перадалі следчаму пару папераў і параілі пайсці самым звычайным у такіх выпадках шляхам — дапытаць Віктара Лукашэнку. Будзем спадзявацца, што следчы абавязкова гэта зробіць.

**Андрэй ПРАКАПОВІЧ**

## «Звычайны прэзідэнт» зноў ездзіць па Еўропе

**Дакументальны фільм «Звычайны прэзідэнт» зноў пабываў у Германіі.**

У вядомым берлінскім універсітэце імя Гумбальта адбыўся паказ гэтай стужкі перад вялікай студэнцкай аўдыторыяй. Сярод гледачоў былі выкладчыкі універсітэта, а таксама арганізатары Берлінскага кінафестывалю, на якім «Звычайны прэзідэнт» атрымаў узнагароду. Па словах рэжысёра Ю.Хашчавацкага, фільм успрымаўся добра, а пасля адбылася двухгадзінная дыскусія. Арганізаваў гэтую акцыю мастак Клаўс Штэк, які ўзначальвае берлінскае таварыства «Кантакты».

У Берліне Юрый Хашчавацкі сустрэўся з кандыдатам у канцлеры ФРГ Герхардам Шродэрам на партыйнай канферэнцыі нямецкіх сацыял-дэмакратаў. Беларускі рэжысёр распавёў Шродэру пра гісторыю стварэння свайго фільма. Касету са «Звычайным прэзідэнтам» кандыдат у канцлеры ФРГ атрымаў у падарунак.

Бліжэйшым часам «Звычайны прэзідэнт» будзе прадстаўлены таксама ў Фінляндыі і Швецыі.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Штаб-кватэра салідарнасці ў Германіі

**Сёння лідэр Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Народная Грамада Мікалай Статкевіч едзе ў Германію з цікавай місіяй. Ён возьме ўдзел ва ўстаноўчым сходзе Камітэта салідарнасці з Беларуссю.**

Якраз 3 ліпеня, калі ў Мінску будуць святкаваць гадавіну вызвалення ад фашысцкіх захопнікаў, немцы збяруцца дзеля стварэння камітэта салідарнасці. Ініцыятыва заснавання гэтай арганізацыі належыць нямецкім сацыял-дэмакратам, у сходзе павінны ўдзельнічаць член Еўрапарламента Вілі Пічык, старшыня групы «Беларусь» у бундэстагу Ута Цапф і іншыя вядомыя палітыкі.

Ёсць інфармацыя, што ў гэты камітэт ужо далі сваю згоду ўвайсці сацыял-дэмакратычныя партыі Даніі, Швецыі, Аўстрыі і нават Лейбарысцкая партыя Нідэрландаў. Як відаць, нямецка-беларуская салідарнасць перарастае дзяржаўныя межы.

**М.Н.**

## Трэцяя кніга прэзідэнта

### *Выйшаў у свет цытатнік Аляксандра Лукашэнкі*

У адрозненне ад дзвюх папярэдніх кніжак Лукашэнкі, якія выйшлі па-нямецку і англійску, гэты шэдэўр выдадзены на рускай мове і мае даволі арыгінальную назву: «Александр Лукашенко — Президент Республики Беларусь». Кніга адкрываецца ўступным словам галоўнага героя і біяграфічным нарысам пра Рыгоравіча, а далей (больш чым на 100 старонках) ідуць цытаты, цытаты, цытаты... У дадатак да іх — адпаведны набор фотаздымкаў: Лукашэнка з французскім прэзідэнтам, з сямействам Клінтанаў, на саміце АБСЕ, з беларускімі рабочымі, з ветэранамі, з дзецьмі і г.д. Але трапілі ў кнігу і некалькі «крамольных» здымкаў, дзе побач з прэзідэнтам можна пабачыць спікера Сямёна Шарэцкага, тагачаснага прэм'ера Міхаіла Чыгіра, цяперашняга сядзельца Жодзінскай турмы Васіля Лявонава і іншых былых паплечнікаў. Складальнікам кнігі, як пазначана ў выхадных дадзеных, з'яўляецца прэзідэнцкі летапісец Эдуард Скобелеў, а надрукаваны зборнік на Мінскай фабрыцы каляровага друку. Але выпушчана пакуль не 100 тысячаў экземпляраў, як запланавана, а толькі адна тысяча, і таму цытатнік можна лічыць пакуль што бібліяграфічнай рэдкасцю.

*(Падрабязнасці чытайце на стар.3.)*

**Данута ЛЯЎКОВІЧ**

## Дробны гандаль хочуць разагнаць

**За чысціню сталічных вуліцаў змагаецца Мінскі гарвыканкам. Першыя магчымыя ахвяры — кіёскі і латкі, дзе сёння гандлююць гаспадарчымі таварамі, рознай касметыкай-парфумамі і кнігамі.**

Па словах начальніка аддзела гандлю і бытавога абслугоўвання Мінгарвыканкама Тадэвуша Чылека, рашэнне аб упарадкаванні дробнага гандлю на вуліцах Мінска ўжо амаль падрыхтаванае сталічнымі ўладамі.

*«Хіба гэта нармальна, калі кожны латок у цэнтры Мінска гандлюе пральнымі парашкамі або касметыкай? Хіба гэта цывілізавана? У нас жа не Шанхай!»* — спрабаваў пераканаць мяне ў неабходнасці гэтых захадаў спадар Чылек. Ён лічыць, што ўвесь дробны гандаль *«падрывае»* працу буйных крамаў і універмагаў, але не можа забяспечыць *«неабходны асартыментны мінімум»*. Напрыклад, менавіта латочнікі з іх бананамі, на думку Чылека, вінаватыя ў тым, што не могуць нармальна працаваць крамы «Садавіна-агароднiна».

Хто хоча гандляваць, кажа чыноўнік, — няхай набывае на гарадскіх аўкцыёнах крамы і там вядзе свой гандаль. *«Цяпер для гэтага ёсць усе ўмовы: ёсць гандлёвыя пляцоўкі, кошт арэнды складае ўсяго 1,5 долара за квадратны метр — прыходзьце, гандлюйце»*.

Такім чынам, са словаў Т.Чылека вынікае, што мінскія ўлады клапоцяцца не пра пакупнікоў, а лабіруюць інтарэсы буйных крамаў, дзе тыя самыя шампуні або бананы каштуюць значна даражэй. Але пакуль што высновы рабіць рана: гарвыканкам яшчэ толькі «ўзгадняе рашэнне». Калі яно будзе прынятае і пачне працаваць, пакуль невядома.

У латочніцы Люды, чыё гандлёвае месца знаходзіцца на адной са станцыяў метро, свой погляд на сітуацыю: *«Я не думаю, што нам забароняць працаваць. Мы ж плацім столькі грошай і дзяржаве, і гораду»*.

Люда гандлюе гаспадарчымі таварамі. Па яе словах, штодня яна прадае парашкоў, мыла і туалетнай паперы на 7-8 мільёнаў рублёў. За месца ў пешаходным пераходзе гаспадар латка плаціць паўтара мільёна рублёў штомесяц. Астатнія падаткі з'ядаюць да 40% прыбытку. І такіх гандлёвых кропак па Мінску — сотні.

*«Тая ж пенсіянерка, пра якую нібыта дбаюць гарадскія ўлады, хутчэй прыйдзе да мяне і набудзе «Тайд» за 63 тысячы, чым у краме — за 99»*, — мяркуе Люда.

І яна мае рацыю. На захад ад Беларусі ўсім добра вядома, што адзіны эфектыўны механізм рэгулявання дробнага гандлю — гэта сам гандаль, рынак. Калі б сапраўды не было патрэбы ў латках, што гандлююць мылам ды парашком, дык яны даўно б зніклі.

Але ж яны паспяхова працуюць і плацяць за гэта немалыя грошы ў бюджэт. З якога, дарэчы, атрымлівае заробак і начальнік аддзела Тадэвуш Чылек, і ягоны шэф мэр Мінска Уладзімір Ярмошын.

Таму калі латкі знікнуць, хто ад гэтага выйграе? Тое, што не жыхары Мінска, — гэта дакладна.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**



*На вулічных латках тавар заўсёды танней, чым у крамах. Сталічныя ўлады збіраюцца прыбраць канкурэнтаў.*

### *Святы*

***У суботу, 4 ліпеня, жыхары Лагойска Мінскай вобласці будуць адзначаць 920-ю гадавіну з часу заснавання горада. У гэты ж дзень райцэнтр Дзятлава Гродзенскай вобласці адсвяткуе 500-гадовы юбілей.***

### *Здароўе*

***Сёння на ўліку ў псіхіятрычнай службе знаходзяцца 200 тысяч пацыентаў, або каля 2% насельніцтва краіны. Аднак, на думку спецыялістаў, каб атрымаць рэальную карціну, гэтую лічбу неабходна павялічыць у 5—7 разоў. Атрымліваецца, што па меншай меры кожны дзесяты беларус мае адхіленні ў псіхіцы.***

### *Войска*

***Расходы на абарону ў мінулым годзе склалі 5,7 трыльёна рублёў, або 7,5% расходнай часткі бюджэту. У выніку карэкціроўкі сума была павялічаная ў 4,7 раза ў параўнанні з першапачатковым планам.***

## Хто каму вінаваты?

**Расія толькі напалову разлічылася за атрыманыя ў 1997 годзе экспартныя тавары з Беларусі, і менавіта гэтых грошай сёння не хапае нашай краіне, каб расплаціцца за расійскія энерганосьбіты.**

Беларускае тэлебачанне паведаміла пра гэта са спасылкай на словы прэм'ер-міністра Сяргея Лінга. У прыватнасці, гаварылася, што Беларусь атрымала ад Расіі менш за 2 мільярды даляраў ЗША, у той час як экспарт у Расійскую Федэрацыю склаў каля 4 мільярдаў даляраў. А нашая запазычанасць Расіі, па словах прэм'ера, складае 240 мільёнаў даляраў за газ і 130 мільёнаў даляраў — за нафту.

Атрымліваецца, што Расія вінаватая нам нашмат больш, чым мы ёй. Але што гэта значыць: расіяне зусім не маюць грошай або тыя тавары, што мы ім завезлі, нікому там непатрэбныя?

## Экалагічную канвенцыю не падпісалі

**На Еўрапейскай экалагічнай канферэнцыі, якая праходзіла на мінулым тыдні ў Даніі, беларуская дэлегацыя не падпісала шэраг пагадненняў.**

У прыватнасці, не падпісаная канвенцыя аб доступе да экалагічнай інфармацыі і аб удзеле грамадскасці ў працэсе прыняцця экалагічных рашэнняў. Праўда, начальнік аддзела міністэрства ахвовы навакольнага асяроддзя А.Рачэўскі запэўніў у інтэрв'ю БелаПАН, што прычыны — чыста тэхнічныя: *«Канчатковыя варыянты паступілі ў міністэрства толькі 30 мая і не паспелі прайсці неабходныя ўнутраныя працэдуры, прадугледжаныя ў нашай краіне»*.

Аднак паказальна, што «працэдурныя» пытанні зноў узніклі па дакументах, якія датычаць правa людзей на атрыманне інфармацыі і ўдзел у вызначэнні дзяржаўнай палітыкі ў вельмі важнай экалагічнай сферы.

**Б.П.**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# Акадэмікі напісалі новы закон

*Але пакуль застануцца пры старых грашах*

30 чэрвеня прайшоў агульны сход Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, які прыняў новы статут і абвесціў акадэмію «вышэйшай дзяржаўнай навуковай арганізацыяй». Прэзідэнт акадэміі Аляксандр Вайтовіч паведаміў, што калі раней АН была самакіруемай навуковай арганізацыяй, то цяпер у статуце запісана, што акадэмікі павінны «выконваць задачы першаступеннай важнасці для дзяржавы».

Пры абмеркаванні статута навукоўцы слушна гаварылі: трэба прывесці аплату супрацоўнікаў НАНБ у адпаведнасць з яе новым статусам як вышэйшай навуковай арганізацыі, для чаго ўнесці адпаведнае палажэнне ў статут. Прэзідэнт А.Вайтовіч гэтую прапанову не прыняў. Праўда, ён паведаміў, што А.Лукашэнка разглядае праект указа, у адпаведнасці з якім у НАНБ істотна павысіцца заработная плата і даплата за акадэмічныя званні. Акадэмікі згадзіліся пачакаць.

*БелаПАН*

# Журналісты пойдуць у суд

**Магілёўскі гарвыканкам адмаўляецца рэгістраваць мясцовае аддзяленне Беларускай асацыяцыі журналістаў.**

Ужо некалькі месяцаў, як чыноўнікам падалі неабходныя дакументы, а яны ўсё прыдумваюць розныя прычыны для адмовы. У апошні раз старшыні арганізацыі Генадзю Судніку ў аддзеле грамадскіх сувязяў заявілі: *«Рэгістрацыі не будзе. Дзе вашыя паперы — не ведаем. А ўвогуле вы разумны чалавек і самі павінны ведаць адказы на ўсе пытанні».*

Магілёўскія журналісты збіраюцца падаць у суд на гарвыканкам і чыноўнікаў.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Падарункі з рук у рукі

**Лекі, медычныя прылады, дзіцячае адзенне і шмат іншага гуманітарнага грузу прывезла ў Магілёўскую і Гомельскую вобласці дэлегацыя дабрачынных грамадскіх ініцыятываў з ФРГ.**

Агульны кошт прывезенага ацэнены ў 1,5 мільёна марак, прычым усё прывезенае перадаецца непасрэдна, што называецца, з рук у рукі. Гэты прынцып дэлегацыя з Германіі лічыць абавязковым. Пасля шматлікіх скандалаў, звязаных з дзяржаўным умяшаннем у працэс размеркавання гуманітарнай дапамогі, заходнія дабрачынцы палічылі за лепшае ўсё зрабіць самім. Прывезеныя дары перададзеныя ў бальніцы, дзіцячыя дамы і проста небагатым сем'ям.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Прастытутка за пяць долараў

**Грузавы аўтапераезд на беларуска-польскай мяжы ў Бераставіцкім раёне славіцца сваёй прастытуцыяй.**

Падзарабіць сюды з'язджаюцца маладыя дзяўчаты з Бераставіцы, суседняга Ваўкавыскага раёна, трапляюцца сярод іх нават непаўналетнія. «Каханне» для шафёра трэйлера каштуе ўсяго 5—10 долараў, бывае, праўда, некаторыя плацяць больш. Падрабязнасці гэтага «прэйскуранта» выявіліся падчас суда над сутэнёрам 30-гадовым Ігарам М., які адбіраў у прастытутак усе грошы. Ён атрымаў 3 гады зняволення з канфіскацыяй маёмасці. Дарэчы, за паркоўку на мяжы бяруць таксама 5 долараў за легкавую машыну і 10 долараў — за грузавую.

**Алесь ДУРЭЙКА**

# Армяне навядуць парадак

**У Магілёве створанае армянскае грамадскае аб'яднанне «Масіс».**

«Масіс» — гэта старажытная назва гары Арарат — сімвала Радзімы для армянаў ва ўсім свеце, патлумачыў прэзідэнт аб'яднання Араік Саакян. «Масіс» прадстаўляе амаль 300 армянскіх сем'яў у Магілёўскай вобласці. Большасць з іх жыве тут ужо шмат гадоў, змяніліся пакаленні, але яны адчуваюць сябе армянамі. Захаванне культурных каранёў і ўзаемадапамога паміж супляменнікамі — галоўныя мэты «Масіса», але аб'яднанне адкрытае для ўсіх, каго цікавіць армянская культура.

Многія армяне, якія прыехалі ў нашую краіну нядаўна, жывуць напаўлегальна, а то і нелегальна, нярэдка трапляюць у крымінальныя зводкі з фармулёўкай «лицо кавказской национальности». Араік Саакян заявіў, што «Масіс» будзе вырашаць і гэтую праблему: «У нас ёсць нефармальныя метады ўплыву на такіх людзей. І мы пачынаем весці з імі сур'ёзную працу».

**Іван ЗАСАДА**


ОТ ПРОИЗВОДИТЕЛЯ

ПОСТЕЛЬНОЕ БЕЛЬЕ
СПЕЦОДЕЖДА
ПОЛОТЕНЦА

- Принимаем заказы на пошив.
- Купим швейное оборудование.

Тел. (017) 226-38-64, 231-20-51


# Дзеці ў зоне

*Здаровых амаль няма*

**Толькі 6% дзяцей, якія жывуць у Слаўгарадскім раёне Магілёўскай вобласці, здаровыя.**

Раён належыць да тых, што больш за ўсіх пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы. Асабліва трывожныя паказчыкі тут па хваробах шчытападобнай залозы. Падобная сітуацыя і ў іншых «чарнобыльскіх» раёнах: лічбы розняцца ненамнога.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**



*На здымку: у Мінскім эндакрыналагічным дыспансеры лечаць дзяцей з хваробамі шчытападобнай залозы.*

# Не веру ні суду, ні міліцыі

**Толькі 15% апытаных сацыёлагамі маладых людзей у крытычнай сітуацыі разлічваюць на абарону з боку праваахоўных органаў.**

Мінскі навукова-даследчы інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных праблемаў правёў у сталіцы даследаванне грамадскай думкі, з якога вынікае: палова апытаных юнакоў і дзяўчат ва ўзросце да 30 гадоў у выпадку экстрэмальных сітуацыяў разлічваюць толькі на дапамогу сяброў. 41% апытаных спадзяюцца на дапамогу бацькоў і родных. Кожны трэці ўпэўнены, што здолее абараніць сябе сам, кожны пяты верыць у абарону Бога.

А найменшы рэйтынг мае прэса: толькі 2% апытаных юнакоў і дзяўчат сталіцы разлічваюць у крытычнай сітуацыі на дапамогу сродкаў масавай інфармацыі.

*БелаПАН*

# Галоўнае – дыплом, а не кантракт

**У Гомельскім медінстытуце распачаўся эксперымент: тут пераходзяць на кантрактную форму падрыхтоўкі медычных кадраў для пацярпелых ад Чарнобыля рэгіёнаў.**

Трохбаковыя кантракты будуць падпісваць абітурыенты, абласны аддзел аховы здароўя і медінстытут. Калі ж малады спецыяліст пасля заканчэння вучобы не паедзе працаваць у прадугледжаное кантрактам месца, дык аблвыканкам будзе старацца спагнаць з яго кошты навучання — прыкладна 12 тысячаў долараў.

Ці дасць эксперымент вынік, будзе вядома толькі праз шэсць гадоў. А пакуль што абітурыенты (і іх бацькі) бягуць па накіраванні і з вялікай ахвотай падпісваюць любыя кантракты. Яны слушна разважаюць, што за шэсць гадоў многае можа змяніцца, а дыплом урача ў кішэні заўсёды спатрэбіцца.

# Ці ў салдаты, ці ў аграномы

**У пацярпелых ад аварыі на ЧАЭС рэгіёнах адна з асноўных праблемаў — кадры: вопытныя спецыялісты з'ехалі з забруджаных тэрыторыяў, а маладыя ехаць у зону не хочуць.**

Вось і ў Хойніцкім раёне Гомельскай вобласці ў сельскай гаспадарцы не хапае начальства. У шасці калгасах няма галоўных аграномаў і галоўных інжынераў, у пяці — галоўных заатэхнікаў і галоўных ветурачоў.

У сувязі з гэтым сесія Хойніцкага райсавета накіравала ў Савет міністраў ліст з прапановай: вызваляць хлопцаў-выпускнікоў ВНУ ад службы ў войску, калі яны паедуць па размеркаванні ў «чарнобыльскія» раёны.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

*Ліст з турмы*

# Шыдлоўскі ўсім удзячны

Хацеў бы праз газету НАВІНЫ падзякаваць усім, хто даслаў мне лісты ў турму. Дзякую Вам за падтрымку, за прапановы, за добрыя словы. Усе лісты я чытаю і па магчымасці адказваю, але не магу напісаць усім. Таму праз газету перадаю асабіста дзякуй паэту Анатолю Вярцінскаму і маёй аднафаміліцы Алене Шыдлоўскай. Дзякуй усім! Я перакананы, што мяне сапраўды памятаюць, падтрымліваюць, вераць у мяне і чакаюць на волі. Я пастараюся апраўдаць надзеі. Я вытрымаю! І ў дзень свайго вызвалення я пацісну руку кожнаму, хто прыйдзе мяне сустракаць. Гэты дзень надыдзе — засталося 8 месяцаў. Жыве Беларусь!

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ,**
*г.Мінск, вул.Кальварыйская, 36, УЖ 15/1 п/с 35/21*

# Домаша яшчэ не выселілі, але...

Сямён Домаш, былы старшыня Гродзенскага абласнога Савета, адзін з тых, каму Лукашэнка помсціць асабіста — за тое, што ў лістападзе 1996-га падпісаў патрабаванне аб імпічменце прэзідэнта. Цяпер Домаша ўпарта спрабуюць выселіць з дому, выконваючы асабісты загад Лукашэнкі.

Гарадскія ўлады прынялі рашэнне, у якім прапанавалі Домашу выселіцца добраахвотна з 1 чэрвеня. Нехта з чыноўнікаў патлумачыў: каб сядзеў ціха, можа і абышлося б. Высяляцца ён адмовіўся, будзе падаваць у суд на ўлады, а пакуль прыняў удзел у чарговым мерапрыемстве — Форуме грамадскіх арганізацыяў вобласці. *«Наша мэта,* — гаворыць ён, — *аб'яднаць гэтыя арганізацыі, якіх мы выявілі больш за 80, але не дзеля таго, каб імі кіраваць. Мы хочам дапамагчы ім больш актыўна дзейнічаць, пашырыць свой уплыў».*

Пасля гэтага ён паехаў у Варшаву разам з калегамі па ВС сустракацца з польскімі парламентарыямі. З Польшчы заехаў на сесію абласнога Савета, дэпутатам якога з'яўляецца. Дарэчы, гарадскія ўлады тым часам прыдумалі новае тлумачэнне — чаму яго высяляюць. Маўляў, у яго доме на кожнага чалавека прыпадае больш як па 12 квадратных метраў. На сесіі ён звярнуўся з дэпутацкім запытам да пракурора вобласці: калі гэта так, хай пракуратура пацікавіцца, якога метражу выдзяляла вертыкаль



С.Домаш.

кватэры сваім чыноўнікам за апошні час. Ніякай рэакцыі. Домаш назваў і канкрэтныя парушэнні законаў, зробленыя абласным начальствам. Аднак ніхто з дэпутатаў яго не падтрымаў. *«Яны ў поўным падпарадкаванні ў выканаўчай улады, многія самі працуюць у вертыкалі. Таму баяцца застацца без працы, сядзяць моўчкі, губляюць прынцыповасць і ўласную годнасць»,* — гаворыць Домаш. Ён сказаў дэпутатам, што з ім расправяюцца за палітычную пазіцыю, але ён не здрадзіць сваім перакананням і будзе змагацца, каб у будучыні ўсе парушэнні цяперашняй улады былі пакараныя.

Але пакуль прыклад Домаша на дэпутатаў, якія зрабіліся марыянеткамі, дзейнічае адназначна: лепш не пярэчыць уладам і тады ўсё будзе добра. Аднак, як ні дзіўна, некаторыя начальнікі нібыта нават зайздросцяць апальнаму дэпутату. Старшыня аблвыканкама Дубко, які абавязкова сядзіць у прэзідыуме сесіі, не без крыўды кінуў Домашу: самі ў беспрацоўных ходзіце, а па заграніцах раз'язджаеце. На якія гэта грошы?

Сам апазіцыянер гаворыць: *«Я гатовы памяняцца з Дубко, калі яму хочацца. Адзінае, што яму мяне няма за што папракаць, бо я езджу не за сродкі з бюджэту, як усе яны. Мне даводзіцца ездзіць па запрашэнні фондаў, якія арганізоўваюць вучобу для прадстаўнікоў грамадскіх арганізацыяў. Разумны кіраўнік парадаваўся б, што ў некаторых людзей ёсць магчымасць з'ездзіць і павучыцца, як будаваць дэмакратыю, паглядзець на лепшае жыццё. А ва ўладаў гэта выклікае толькі зайздрасць і абурэнне».*

Днямі гарадскія ўлады падалі ў суд, каб нарэшце выселіць Домаша з дому. Мясцовыя дэмакраты збіраюцца дружна выйсці на вуліцу, каб не дапусціць высялення. Ці збяруцца? Улады, між іншым, вырашылі абразіць яго — былога мэра Гродна, а потым абласнога кіраўніка, адначасова пазбавіўшы яго аргументаў. Маўляў, высяляем не на вуліцу, даём узамен кватэру і пасмейваюцца: знізу каўбасная крама, за рогам у тым жа доме — гарэлачная, што яшчэ трэба? Домаш не згаджаецца на высяленне, бо «законнасць» акцыі трымаецца на рэзалюцыі А.Лукашэнкі, які загадаў вярнуць дом у дзяржаўную маёмасць. Коратка і ясна. Ясна і тое, што прэзідэнт РБ не пракурор, у рэзалюцыі нават спасылкі на закон няма. Сямён Домаш гаворыць: *«Рашэнне такое для кіраўніка дзяржавы — амаральнае. Увогуле — не яго справа займацца падобнымі пытаннямі. Ён падстаўляе сябе, зніжае свой аўтарытэт. Дэманструе ўсім, як ён распраўляецца з чалавекам, які не згодны з яго палітыкай».*

Не маючы іншай магчымасці, С.Домаш напісаў адкрыты ліст да А.Лукашэнкі і надрукаваў яго ў апазіцыйнай прэсе. Адказу не было. Была толькі рэакцыя, прычым жорсткая: Домаша выселіць.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012






# Цитатник вождя

## *Вышла в свет третья книга Александра Лукашенко*

Так выглядит обложка очередной книги Александра Лукашенко. Открывается сборник обращением президента к читателям. Лукашенко пишет, *«что со времени принятия присяги занят только тем, чтобы оправдать доверие народа и выполнить обещанное»*, для чего ему *«приходится работать, не щадя своих сил»*.

Вслед за обращением помещен краткий биографический очерк. Из него можно узнать о жизненном пути Александра Григорьевича с детских лет до настоящего времени. Например, о том, что на каждом рабочем участке будущий президент *«добивался положительных результатов и пользовался широкой поддержкой трудового большинства»*.

А вот как описаны в биографическом очерке сильные человеческие качества президента – *«заступника, судьи, миротворца и организатора»*. Он гибок, но тверд, простодушен и открыт, но прозорлив. Обаятельный в общении, человек огромной энергии, он стремится лично разобраться в каждой проблеме. Откровенен и прям, глубоко переживает страдания окружающих, зная, что они заслуживают гораздо более счастливой доли. Отличается высокой принципиальностью и панорамностью видения событий. Обладает редким даром увлекать собеседника и убеждать его в своей правоте. Любит импровизированные речи и живой диалог. Увлекается спортом и чтением художественной литературы.

В биографическом очерке сообщается также, что *«А.Г.Лукашенко очень гордится, что многие люди называют его уважительно — «батька»... Кто видел, с какой лаской в глазах А.Г.Лукашенко разговаривает с детьми, глядит на пашню, растирает в руках землю, чтобы определить ее качество и ее плодородную мощь, тот понимает, о чем идет речь»*.

Далее в книге приведены весьма любопытные высказывания о президенте белорусских и зарубежных политиков и деятелей культуры. **Алексий II**, патриарх Московский и Всея Руси, сообщает, что *«знает Александра Григорьевича как доброго, искреннего человека, труженика и верного сына белорусского народа»*. Писатель **Иван Шамякин** указывает на *«ясность мышления президента и умение с ходу отвечать на любой вопрос»*. Председатель Белорусского союза женщин **Тамара Дудко** отмечает *«отсутствие у Лукашенко типичного мужского стереотипа о вторичности роли женщины в обществе»*. А художник **Михаил Савицкий** чувствует в этом человеке *«таинственность личности, внутри лежащий скрытый героизм и глубокую страсть души, подавляющую его житейскую личность до самозабвения»*.

Основное содержание издания «Александр Лукашенко — Президент Республики Беларусь» составляют выдержки из выступлений, статей и интервью президента. Грубо говоря, перед нами доморощенный вариант знаменитой красной книжки — незабвенного цитатника Мао Цзэдуна. Лукашенковский цитатник проиллюстрирован соответствующими фотографиями: вот президент в кругу ветеранов на параде в День Победы, вот среди рабочих или тружеников села, вот на новогодней елке, а вот и коронный кадр — с девочкой на руках, почти как вождь всех времен и народов.

Высказывания президента в сборнике распределены по темам. Отдельно выделено почти шестьдесят тем — от главных задач президентской власти, приватизации и солидарности славянских народов до свободы печати, положения женщин и отношений со странами НАТО. По объему больше всего страниц отдано двум темам — принципам формирования рынка и дотациям. Вот некоторые, на наш взгляд, заслуживающие внимания цитаты президента.

**О демократии:** *«Права человека — это и право на труд, медицинское обслуживание, получение зарплаты и многое другое. Поэтому не надо тут говорить только о проблемах свободы слова»*.

**О свободе печати:** *«У нас — свобода печати, свобода слова, инакомыслящие не подвергаются преследованиям, силой не закрыта ни одна газета, не подвергся гонениям ни один журналист»*.

**Об оппозиции:** *«Непримиримая оппозиция идет на любые провокации, чтобы не просто раскачать, но и перевернуть наш государственный корабль»*.

**Об интеграции:** *«Интеграция постсоветского пространства — единственный путь к миру и стабильности, в том числе и для Запада»*.

**О приватизации:** *«Была государственная собственность, ее кто-то хватанул, состриг купоны и ушел оттуда, бросив тысячи людей на произвол судьбы»*.


*Почти как вождь всех времен и народов.*

**О положении женщин:** *«Последнюю копейку я отдаю, если она есть, людям и, прежде всего, женщинам. Я с большим уважением отношусь к женщине. Это пчелка в нашем обществе, это трудяга»*.

**О национальной безопасности:** *«Стоило мне только высказаться о необходимости реагировать на экспансию НАТО, как я сразу попал в черный список у западных государств»*.

**О преступности:** *«В отличие от ряда государств у нас страной, простите за нескромность, руководит некоррумпированный президент»*.

А вот что Александр Лукашенко говорит **о себе и своей работе:** *«Мой курс — не допустить дикой приватизации и обвальных реформ... Я не хочу сказать, что все, что я сделал — хорошо. Так в жизни не бывает, но я работал, простите за жесткость термина, остервенело. У меня не было, по существу, личной жизни и, наверное, еще долго не будет... Я не могу спокойно воспринимать происходящее вокруг, я очень активно, эмоционально реагирую на происходящие события... Меня часто били, не в прямом, конечно, смысле, за то, что я не молчал, а всегда говорил правду, сражался за нее до крови в ногтях... У меня нет левых криминальных денег и опоры на мафиозные кланы, поэтому приходится обращаться за поддержкой к тем, кто привел меня к власти... Лукашенко преходящ. Сегодня я президент, завтра такой же смертный, как и все, со всеми своими грехами, и я сегодня не святой»*.

И финал совершенно в духе сцены в ресторане «Плакучая ива» из «Бриллиантовой руки»: *«Приезжайте к нам в Беларусь, походите по улицам, побудьте в трудовых коллективах, поговорите с оппозицией, с властями пообщайтесь, с любым человеком — убежден, Вы уедете нашим другом»*. Эти бы слова — да послам в уши. Капризные дипломаты уехали из страны, наверное, лишь потому, что вовремя не ознакомились с содержанием сборника.

На последних его страницах напечатана хроника работы президента — подробнейший отчет о том, что Александр Лукашенко делал каждый день с момента избрания. Так, например, можно узнать, что 15 ноября 1995 года президент дал интервью газете «Хандельсблат». Помните? То самое, в котором предельно ясно выразил свое отношение к Адольфу Гитлеру. 27 апреля 1996 года глава белорусского государства участвовал в субботнике, а 18 июля 1997 года посетил стадион «Трактор». В аннотации к хронике сказано, что она *«не отражает постоянных усилий главы государства по организации деятельности во всех областях жизни общества»*, ведь *«рабочий план президента расписан по минутам и у него нет права на усталость и плохое настроение»*.

**Владимир ДОРОХОВ**

***КАДРЫ***



# Саша грае на баяне

**У свой час газета СВАБОДА распавядала чытачам, якім быў школьнікам Саша Лукашэнка. А цяпер мы даведаліся, якім Саша стаў пазней.**


Могилевский Государственный педагогический институт
ЗАЧЕТНАЯ КНИЖКА № 11313
Фамилия, имя и отчество Лукашенко Александр Григорьевич
Факультет исторический
Специальность история
Поступил ........, переведен ........ на первый курс
с 1 сентября 1971 г.
Проректор по учебной и научной работе
Декан факультета
7 сентября 1971 г.
(дата выдачи зачетной книжки)

*Заліковая кніжка студэнта Аляксандра Лукашэнкі.*

17-гадовы Саша Лукашэнка быў добрым камсамольцам. У характарыстыцы, што выдала яму камсамольскае бюро Александрыйскай сярэдняй школы Шклоўскага раёна, так і сказана: *«За время пребывания в членах ВЛКСМ добросовестно выполнял комсомольские поручения. Изучал работы В.И.Ленина «Задачи союзов молодёжи», «Что такое Советская власть?», биографию В.И.Ленина. Был членом комитета комсомола, возглавлял политический сектор. На заседаниях комитета комсомола активно выступал и выносил справедливые решения»*.

Акрамя таго, Саша любіў чытаць газеты і часопісы. Ён быў надзвычай палітычна падкаваным, бо ўжо ў школьным узросце *«выписывал газету «Известия» и журнал «Политическое самообразование»*. А яшчэ Саша ўжо тады прадэманстраваў сваю яркую артыстычную натуру. *«За активное участие в художественной самодеятельности объявлена дирекцией школы благодарность»*.

Дырэктар Александрыйскай школы сам рэкамендаваў Аляксандра Лукашэнку ў педінстытут на гістарычны факультэт. У характарыстыцы-рэкамендацыі адзначаецца, што Саша *«ученик способный. Хорошо знает историю. Увлекается литературой. Читает стихи, любит музыку и хорошо играет на баяне»*.

У інстытуце таленты студэнта-гісторыка Аляксандра Лукашэнкі яшчэ больш развіліся. У характарыстыцы дэкана факультэта на студэнта-выпускніка гэта бачна ў кожным радку. І вучыўся Аляксандр добра. І схільнасць да грамадскіх навукаў праявіў. І нават сам напісаў адну навуковую працу, якой прысудзілі ІІ катэгорыю. (Праўда, невядома, пра што тая праца і які ўклад у развіццё чалавецтва яна ўнесла. Але хутка, відаць, прэзідэнцкія гісторыкі гэты прабел ліквідуюць.)

Здольнасці Лукашэнкі-студэнта асабліва праяўляліся там, дзе патрабавалася шмат гаварыць. Напрыклад, *«с 1972 года Лукашенко — лектор обкома комсомола, ведет широкую пропагандистскую работу среди населения...»* Акрамя таго, 3 гады ён кіраваў інстытуцкай газетай «За ленінскія кадры».

Карацей кажучы, усе сённяшнія таленты прэзідэнта Лукашэнкі ідуць каранямі ў ягонае дзяцінства і *«студзенчыска-юнашаскія годы»*. З таго часу ўсе гэтыя таленты моцна развіліся. За выключэннем хіба што ігры на баяне.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



## Расійскі пасол пакінуў ДраздЫ

**Нарэшце і расійскі пасол Валерый Лашчынін пакінуў сваю рэзідэнцыю ў Драздах ды пераехаў на гарадскую кватэру.**

Як нам паведамілі ў расійскім МЗС, пражыванне дыпламата ў Драздах стала немагчымым з-за адключэння беларускімі ўладамі электрычнасці і вады. В.Лашчынін «гасціў» у лукашэнкаўскай рэзідэнцыі каля тыдня пасля высялення адтуль паслоў заходніх краінаў. Цяпер В.Лашчынін апячатаў сваю рэзідэнцыю і накіраваўся ў чарговы адпачынак. Расійскі бок не збіраецца адклікаць свайго пасла. Як сказаў прадстаўнік МЗС Расіі Валерый Несцярушкін, *«адкліканне паслоў для кансультацыяў — вельмі жорсткі крок, асабліва калі ўлічыць той факт, што становішча Беларусі на міжнароднай арэне і так вельмі няпростае».*

Расійскі бок абмежаваўся пакуль што толькі нотаю на адрас МЗС Беларусі. Несцярушкін таксама сцвярджае, што *«расійская місія з'яўляецца ўласнікам тэрыторыі ў Драздах».* Між тым, гэта не так. Будынак расійскай рэзідэнцыі сапраўды з'яўляецца ўласнасцю Расіі паводле міжурадавай дамовы, заключанай у лістападзе 1997 года. Аднак зямля, на якой стаіць рэзідэнцыя В.Лашчыніна, пакуль не з'яўляецца ўласнасцю Расіі.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**




# Оказывается, Европа еще не доросла до Лукашенко

*Михаил Мясникович в этом убежден. Осталось убедить Европу. Однако на форуме в Кран-Монтано сделать это не удалось. Почему?*

**МЯСНИКОВИЧ**: «Участие белорусского руководителя в форуме изначально рассматривалось как возможность с международной трибуны разъяснить суть проводимого страной политического и экономического курса, спокойно, без эмоций высказать свои суждения относительно проблем в отношениях Беларуси с Западом. Однако, к сожалению, без эмоций на форуме не обошлось.

Три-четыре участника его с самого начала пытались обвинить президента в нежелании проводить в республике демократические преобразования. Эти люди высказывали заученные фразы, знакомые многим жителям республики по публикациям в оппозиционной ультраправой прессе. Стало совершенно очевидным, что обвинения и абсолютное нежелание выслушать аргументы президента Беларуси — главная цель председательствующего на данном заседании форума ведущего французского телевидения Маларда и его политических заказчиков.



М.Мясникович: *«Администрация президента виновата перед Александром Григорьевичем».*

Из-за хамского поведения председательствующего не произошло конструктивного обсуждения конкретных наболевших вопросов. Тональность заказанных выступлений свидетельствовала об откровенном нежелании обсуждать что-либо по существу, сводилась к надуманным общим вопросам и бытовым проблемам типа так называемого выселения послов европейских стран из своих загородных дач в «Дроздах».

**КОРР.: «По прибытии из Швейцарии президент дал крайне негативную оценку подготовке визита. С чем это связано?»**

**МЯСНИКОВИЧ**: «Действительно, глава государства назвал подготовку поездки неудовлетворительной. Администрация президента виновата перед Александром Григорьевичем в том, что недостаточно глубоко проанализировала возможное развитие событий. Откровенно говоря, мы не думали, что форум, который имеет претензии на заглавное место в Европе, станет привлекать в качестве ведущих профессиональных негодяев и лицемеров, говорящих одно, а делающих другое. Думаю, что форум в Кран-Монтане еще не дорос до того уровня, чтобы приглашать таких мощных лидеров, как А.Лукашенко.

Александр Григорьевич изначально не питал иллюзий относительно «спокойствия» в этой поездке. Решаясь на визит в этот сложный по вине Запада в отношениях Беларуси с Евросоюзом период, президент прекрасно понимал, что отдельные «доброжелатели» попытаются устроить какую-нибудь провокацию. Но мы не думали, что европейская публика пойдет на эту провокацию, так грязно и тщательно проработанную.

Здесь вина администрации и других белорусских государственных структур, которые занимались подготовкой поездки. Нам не удалось предвидеть масштабность готовящейся провокации, и президент не был своевременно об этом информирован. В результате он оказался в зале международного экономического форума один на один сразу с несколькими ярыми политическими оппонентами, которые по четко разработанному хитрому сценарию при большом стечении прессы пытались провести этакое шоу — устроить обструкцию главе белорусского государства. Не удалось!»

*Из интервью*
**Михаила МЯСНИКОВИЧА**
*корреспонденту «Интерфакса»*

*Взгляд из Москвы*

# Союзник снова оскорбил Россию

*Так считают «Известия»*

Оскорбительные высказывания Александра Лукашенко в адрес России и ее руководства уже перестали кого-либо удивлять. С периодичностью раз в несколько месяцев глава Беларуси переходит в яростные атаки то на президента соседней страны, то на членов ее правительства. Очередной скандальный выпад был сделан в минувшие выходные на международном форуме в швейцарском городе Кран-Монтана.

В отличие от всех предыдущих случаев на сей раз (пожалуй, впервые) Лукашенко оскорбил Россию перед иностранной аудиторией. Говоря о Совете Европы, куда его республику упорно отказываются принимать, президент Беларуси с негодованием заявил: чтобы попасть в эту организацию, *«нужно просто расстрелять парламент танками, как это сделали некоторые».*

Фактически слова Лукашенко надо понимать так: после октябрьских событий 1993 года Россия Бориса Ельцина (остающаяся, к слову, последним союзником Беларуси на международной арене) потеряла право называться демократическим государством и заслуживает исключения из Совета Европы. Можно представить, какую бурю негодования вызвала бы в Кремле подобная тирада, позволь ее себе, к примеру, президент Эстонии или Латвии. Но в том-то и дело, что лидеры этих государств, которые российская дипломатия едва ли относит к числу дружественных, высказываются в адрес России подчеркнуто корректно. Хамский тон допускает только «ближайший друг и союзник».

Плевок в лицо Москвы был абсолютно неспровоцированным. Напротив, в ходе заседания и в кулуарах конференции члены российской делегации неоднократно пытались защитить Лукашенко от западных представителей, возмущенных выселением из резиденции «Дрозды» иностранных послов. Благодарность белорусского президента получилась весьма оригинальной.

То, что сделал Лукашенко, трудно квалифицировать иначе как предательство союзника, удар ему в спину. В тот самый момент, когда Россия отчаянно нуждается в кредитах МВФ для предотвращения финансового кризиса, президент дружественного государства пытается дискредитировать Москву в глазах западной аудитории. Причем Александр Григорьевич делает это походя, как бы между делом. Оскорбил — и сам, возможно, даже не заметил. Просто в пылу дискуссии забыл, перед какими слушателями выступает. И вырвалась заученная фраза, которую депутаты минского «карманного» парламента или Государственной думы, скорее всего, встретили бы «на ура». В Кран-Монтане, к счастью для России и ее президента, собралась несколько иная публика.

**Максим ЮСИН**, *«Известия»*

## Кремлю уже надоело

**Во вторник появилась первая реакция российских официальных лиц относительно недружественного высказывания Лукашенко в адрес России на экономическом форуме в Кран-Монтане.**

Сотрудник российского МИДа Рахманин, комментируя слова белорусского президента о том, что Совет Европы якобы проводит в отношении Минска политику двойных стандартов, принимая в свои члены страну, где парламент был расстрелян из танков, и не принимая Беларусь, заявил: *«Азарт полемики не может служить оправданием подобным высказываниям Лукашенко о союзном Беларуси государстве. Надеемся, что за словами президента Беларуси не кроется нечто большее, чем простая оговорка».*

МИД России направил белорусской стороне ноту, в которой потребовал официальных объяснений по поводу инцидента.

**А.Н.**

## БПСМ выйшаў у эфір

**У радыёхвалі, на якой да 1 верасня 1996 года працавала маладзёжная станцыя Радыё 101.2, з'явіўся новы гаспадар. Цяпер на гэтай частаце вяшчае радыё «Стыль», заснавальнікамі якога выступілі дзяржкамітэт па справах моладзі і БПСМ.**

Пачатак працы лукамольскага рупара быў спецыяльна прымеркаваны да Дня моладзі 28 чэрвеня. Адрозненне станцыі «Стыль» ад Радыё 101.2 прынцыповае. Тое любімае многімі радыё працавала па салідных стандартах: аб'ектыўная інфармацыя і арыгінальныя, яксныя аўтарскія праграмы былі зместам эфіру. Дзякуючы прафесіяналізму Радыё 101.2 здабыло сабе шмат слухачоў, і гвалтоўнае закрыццё станцыі незадоўга перад рэферэндумам 1996 года многія перажывалі як асабістую драму. Памятаеце, як цынічна паводзілі сябе ўлады: тлумачэнне было такое, што Радыё 101.2 перашкаджае рабоце ўрадавай сувязі. Радыё «Стыль» на той жа частаце ўжо не перашкаджае нікому?

Дый увогуле праца станцыі маладых прэзідэнцкіх патрыётаў будуецца зусім на іншых асновах. Старшыня дзяржкамітэта па справах моладзі Аляксандр Пазняк лічыць, што прафесіяналізм — гэта не галоўнае. Для добрай работы радыёстанцыі, упэўнены Пазняк, дастаткова стварыць калектыў аднадумцаў. Пра гэта галоўны чыноўнік па справах моладзі прызнаўся ў нядаўнім інтэрв'ю газеце «ЗЮ», дадаўшы, што ён не спецыяліст у эфірных праблемах, таму, маўляў, новая станцыя нараджалася доўга. Нагадаем, што ўлады паабяцалі частату 101.2 лукамольцам яшчэ ў мінулым годзе, калі БПСМ толькі ствараўся.

Цяпер каманда «маладых аднадумцаў-непрафесіяналаў» ужо забівае радыёэфір. Няўжо яны ўсур'ёз упэўненыя, што, каб здабыць прызнанне слухачоў, дастаткова ўсяго толькі самааддана любіць прэзідэнта?

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Много шума из-за разбитой фары

**Белорусская официальная пресса, вслед за российскими СМИ, распространила «утку», которую передал из Варшавы корреспондент агентства ИТАР-ТАСС. Он сообщил, якобы бывший советник президента России Сергей Станкевич попал в автомобильную аварию, да еще *«пытался скрыться с места происшествия, но был задержан полицией».* Свидетелем этой ситуации была наш корреспондент Людмила Гулякевич. Вот что она передала нам из Варшавы.**

Провожая в аэропорту депутата Госдумы Галину Старовойтову, которая вылетала в субботу 27 июня в Москву, я оказалась невольной свидетельницей хоть и не самой аварии, но того, что за ней последовало. Подвозил Старовойтову из гостиницы до аэропорта как раз Сергей Станкевич. И паркуя свой джип в аэропорту, Станкевич, подавая машину немного назад, раздавил фару стоящего сзади автомобиля. Аварией данное происшествие хоть с натяжкой, но еще можно назвать. Водитель пострадавшей машины действительно намеревался поначалу вызвать полицию.

В Польше, как и везде на Западе, каждый автомобиль должен обязательно быть застрахован от так называемой «гражданской ответственности» — страховка «ОС». Причем, выезжая на автомобиле, водитель наряду с правами и «паспортом» машины должен обязательно иметь при себе и эту страховку — ее наличие может потребовать любой полицейский и в случае ее отсутствия, в соответствии с новым Дорожным кодексом, запретить пользование автомобилем. Если же по вине какого-либо водителя происходит автокатастрофа, в результате которой повреждается другой автомобиль, то нанесенный вред покрывается из ОС виновного водителя. Прийти к соглашению виновный и пострадавший в таком случае могут как при участии полиции, так и без ее участия — виновный водитель пишет заявление о том, что признает себя виновным в нанесении ущерба владельцу пострадавшего автомобиля и обязуется покрыть стоимость ремонта за счет своей страховки. Заявление остается у пострадавшего, который, само собой разумеется, при этом также проверяет документы и договор страхования ОС у виновного водителя. Иногда для большей надежности пострадавшие все-таки настаивают на вызове полиции. В таком случае все заканчивается составлением акта о происшествии, штрафом (от 300 злотых и выше — сумма приличная, но не настолько большая, чтобы рисковать еще больше и пытаться от полиции сбежать) и все тем же покрытием ущерба за счет своей страховки.

Чтобы ускорить разбирательство с водителем пострадавшего автомобиля и все-таки успеть проводить Галину Старовойтову, Сергей Станкевич — к полному удовольствию пострадавшей стороны — предпочел сразу же оплатить стоимость разбитой фары наличными, так что уже через несколько минут присоединился к остальным провожающим. Никакой акции с преследованием и задержанием «особо опасного преступника» за всем этим — вопреки информации российских СМИ — не последовало. В понедельник, когда я позвонила Станкевичу по телефону, он также пребывал «на свободе» и только посмеялся над преподнесенной ИТАР-ТАСС версией субботнего происшествия.

**Людмила ГУЛЯКЕВИЧ**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

